Людзьмі звацца!
Янка Купала.

# СПРАВА

№ 14
Жнівень
2012 г.

http://vk.com/id168308417

Выдаецца з лютага 2012 г.

ІНФАРМАЦЫЙНА - ГРАМАДСКІ БЮЛЕТЭНЬ МАГІЛЁЎСКАГА РАЁНА

ВЫБАРЫ 2012

## АКРУГОВАЯ КАМІСІЯ ПАВЕДАМЛЯЕ...

Акруговая выбарчая камісія Магілёўскай сельскай выбарчай акругі № 88 па выбарах дэпутата Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь пятага склікання паведамляе, што 22 жніўня 2012 года кандыдатамі ў дэпутаты Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь пятага склікання зарэгістраваныя:

МАСКАЛЕВА Тамара Міхайлаўна, 30 чэрвеня 1952 года нараджэння, індывідуальны прадпрымальнік, жыве ў в.Прысна-2 Магілёўскага раёна, сябра Партыі БНФ, агульная сума гадавога даходу за 2011 год склала 14.841.758 рублёў, ва ўласнасці мае кватэру, домік, зямельны ўчастак і акцыі ААТ «Магатэкс».

ПАДДУБСКІ Мікалай Уладзіміравіч, 21 мая 1978 года нараджэння, майстар пагрузачна-разгрузачных работ сумеснага таварыства з абмежаванай адказнасцю "Юнімілк Шклоў», пражывае ў г.Мінску, член Ліберальна-дэмакратычнай партыі, агульная сума гадавога даходу за 2011 год склала 104820757 рублёў, ва ўласнасці мае зямельны ўчастак і 50 працэнтаў у статутным фондзе ТАА «Гандлёва-вытворчае прадпрыемства Кастрычнік».

РАЗГАНАЎ Аляксандр Іванавіч, 6 лютага 1953 года нараджэння, намеснік старшыні камісіі па аграрных пытаннях Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь, пражывае ў г.Мінску, беспартыйны, агульная сума гадавога даходу за 2011 год склала 73.938.196 рублёў, ва ўласнасці мае кватэру і легкавы аўтамабіль.

ШАЎЦОЎ Аляксандр Мікалаевіч, 18 красавіка 1981 года нараджэння, часова не працуе, пражывае ў г.Мінску, член Аб'яднанай грамадзянскай партыі, даходу за 2011 год і маёмасці не мае.

## У МАГІЛЁВЕ БУДУЦЬ СУДЗІЦЬ НАЗІРАЛЬНІКА

На каардынатара кампаніі «За справядлівыя выбары" па Магілёўскай вобласці Юрыя Новікава завялі адміністрацыйную справу. Яму інкрымінуецца распаўсюд сродкаў масавай інфармацыі без выходных дадзеных. 28 жніўня актывіста дапыталі ў Ленінскім аддзеле ўнутраных спраў Магілёва і склалі пратакол аб адміністрацыйным правапарушэнні.

*«Сказалі чакаць позвы ў суд. Зразумела, усё робіцца для таго, каб не даць нам магчымасці арганізаваць нармальнае назіранне за гэтымі выбарамі. Для нас ствараюцца праблемы. Замест падрыхтоўкі назіральнікаў, нам трэба будзе барацьба з ветранымі млынамі - хаджэнне па судах і ўсё такое»,* - сказаў Юрый Новікаў.

24 жніўня супрацоўнікі Ленінскага аддзела міліцыі Магілёва канфіскавалі ў Юрыя Новікава літаратуру па вядзенню назірання за выбарамі. Міліцыянты выявілі метадычкі, сшыткі і газеты «За справядлівыя выбары» ў яго машыне. Канфіскавана больш за 1500 асобнікаў друкаванай прадукцыі.

## "ПРЫДНЯПРОЎСКАЯ НІВА" АДМОВІЛА КАНДЫДАТУ

Кандыдату ў дэпутаты ад Аб'яднанай грамадзянскай партыі Аляксандру Шаўцову адмоўлена ў публікацыі яго паслання выбаршчыкам у газеце «Прыдняпроўская ніва».

Нягледзячы на тое, што з выступу былі прыбраныя слова *«байкот»*, *«Лукашэнка»*, і быў зроблены больш «мяккім» тэкст, галоўны рэдактар газеты Святлана Дзядушка ў катэгарычнай форме заявіла: *«Гэта не праграма!»*.



Святлана Дзядушка
Фота з сайта "Прыдняпроўскай нівы"

Неўзабаве прыйшоў пісьмовы адказ, у якім С.Дзядушка паведаміла, што ў публікацыі паслання кандыдату ў дэпутаты адмоўлена, бо яно не адпавядае патрабаванням часткі 1 арт. 47 і часткі 1 арт.75 Выбарчага кодэкса Рэспублікі Беларусь.

На думку намесніка старшыні АГП, юрыста Антаніны Кавалёвай, дадзеныя прэтэнзіі абсалютна надуманыя. *«Абодва прыведзеныя артыкула ВК паказваюць, што выступы і праграма кандыдата не павінны ўтрымліваць прапаганды вайны, заклікаў да гвалтоўнай змены канстытуцыйнага ладу, парушэння тэрытарыяльнай цэласнасці Рэспублікі Беларусь, да сацыяльнай, нацыянальнай, рэлігійнай і расавай варожасці, абразаў і паклёпу ў дачыненні да службовых асобаў і іншых кандыдатаў,* - кажа Антаніна Кавалёва. - *Нічога падобнага выступы і праграмы нашых кандыдатаў не ўтрымліваюць, а заклікаюць да сумленных выбараў. Хочацца сказаць тым, хто перашкаджае кандыдатам у іх законным праве на агітацыю: спадары, займіцеся выкананнем сваіх службовых абавязкаў. Паспрабуйце знайсці ў законе палажэнні аб адказнасці за парушэнне выбарчага заканадаўства, якія там сапраўды ёсць, і тычацца асабіста вас. Калі вы і далей будзеце ўпарціцца ў сваіх незаконных дзеяннях, прыйдзецца панесці справядлівае пакаранне».*

*Падрыхтаваў Антон ДУБАЛОМАЎ.*
Паводле svaboda.org, charter97.org, new.ucpb.org.

## 21 год таму Беларусь стала незалежнай



Жнівень 1991 года быў лёсавызначальным. На плошчу Леніна ў Мінску выйшлі дзясяткі тысяч людзей і прайшло гістарычнае пасяджэнне Вярхоўнага Савета. 25 жніўня 1991 г. 5-я нечарговая сесія Вярхоўнага Савета БССР прыняла закон «Аб наданні статусу канстытуцыйнага закона Дэкларацыі Вярхоўнага Савета БССР аб дзяржаўным суверэнітэце Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі» і пастанову «Аб забеспячэнні палітычнай і эканамічнай самастойнасці Беларускай ССР». Тым самым фактычна была абвешчана незалежнасьць БССР.

Тая сэсія адбывалася на трэці пасьля правалу путчу ГКЧП дзень і праходзіла досыць бурна. 24 жніўня БНФ вывеў на плошчу Леніна дзясяткі тысяч чалавек, а ў залю, дзе адбываліся паседжанні, Валянцінам Голубевым, Зянонам Пазьняком і Галінай Сямдзянавай быў унесены бел-чырвона-белы сцяг, а потым дэпутаты ад фракцыі БНФ не дапусцілі да трыбуны галоўнага камуніста Беларусі Анатоля Малафеева. 24 жніўня старшыня Вярхоўнага Савета БССР Мікалай Дземянцей падаў у адстаўку, першым кіраўніком незалежнай Беларусі стаў Станіслаў Шушкевіч, які да гэтага займаў пасаду намесніка старшыні. 19 верасня 1991 г сесія Вярхоўнага Савету прыняла рашэнне называць БССР надалей Рэспубліка Беларусь, у скарочаных назвах - Беларусь. Тады ж была прынята пастанова Вярхоўнага Савета аб дзяржаўных сімвалах. Дзяржаўным сцягам быў абвешчаны бел-чырвона-белы сцяг, гербам – "Пагоня".

*Юлія БРУК.*

## Арцыбіскуп Збігнеў СТАНКЕВІЧ:
## *"Нам не хапае пачуцця ўнутранай свабоды"*

У Браславе 17 - 18 жніўня праходзіў каталіцкі фестываль. Ён быў прысвечаны святкаванню абраза Маці Божай Браслаўскай, якая сярод каталікоў лічыцца цудатворнай.

Свята сабрала некалькі тысяч вернікаў, прычым не толькі з Віцебскай дыяцэзіі. У набажэнстве прынялі ўдзел святары з розных краінаў свету, нават з ЗША і Італіі. Службу вёў Апостальскі нунцый у Беларусі арцыбіскуп Клаўдыё Гуджэроцці па-беларуску.

У канцы службы каталіцкія іерархі звярнуліся да беларускіх вернікаў.

*«З мінулых дзесяцігоддзяў у нас ёсць глыбокая рана - неразуменне ўласнай каштоўнасці перад Богам»,* - сказаў арцыбіскуп з Рыгі Збігнеў Станкевіч і дадаў, што нам, жыхарам постсавецкай прасторы, не хапае пачуцця ўнутранай свабоды.



Арцыбіскуп Збігнеў Станкевіч

У канцы літургіі арцыбіскуп Клаўдыё Гуджэроцці падзякаваў старэйшае пакаленне беларусаў: *«Для мяне, які жыве спакойна як хрысціянін і не ведаў пераследаў, вы - прыклад. Дзякуй старэйшаму пакаленню за тое, што захавалі веру».*

У фестывалі прынялі ўдзел некалькі тысяч чалавек.

*Сяргей ПІСЬМЕННЫ.*

## Папярэджанне...

По падліках эканаміста Леаніда Злотнікава, павелічэнне зарплаты да 500 дол. прывядзе да павелічэння даходаў насельніцтва на 6-7 мільярдаў дол. Але інвестыцыі скараціліся на 20% – гэта каля 3 мільярдаў дол. Каб падтрымаць рост зарплаты ў 2013 годзе, спатрэбіцца ўжо 16 мільярдаў дол. Гэта азначае, што ў краіну павінен паступіць дадатковы прыток валюты ў 8 мільярдаў дол. (акрамя тых паступленняў, якія чакаюцца). А каб разлічыцца з пазыкамі, нам не хапае 3-5 мільярдаў дол. дадатковага прытоку валюты. Нам і так не хапае валюты 3-5 мільярдаў штогод, а з павелічэннем заробкаў гэты дэфіцыт значна вырасце. Нам трэба знайсці дадатковыя 8 мільярдаў дол., каб не было інфляцыі і дэвальвацыі. *"Калі беларускае кіраўніцтва і далей працягне такую палітыку - у наступным годзе ўтрымаць сітуацыю пад кантролем не ўдасца"* – упэўнены Л.Злотнікаў.

Паводле udf.by/

## Беларусаў ужо менш 9.500.000

Паводле аператыўных дадзеных, колькасць насельніцтва Беларусі на 1 жніўня гэтага года склала 9 млн. 457,1 тыс. чалавек. Пра гэта паведаміла БелТА прэс-сакратар Нацыянальнага статыстычнага камітэта Алена Кандраценка.

У параўнанні з 1 студзеня 2012 года жыхароў краіны стала менш на 8,1 тыс. чалавек. Колькасць жыхароў за сем месяцаў гэтага года павялічылася толькі ў Мінску - з 1 млн. 885,1 тыс. чалавек на 1 студзеня 2012 года да 1 млн. 888,2 тыс. на 1 жніўня бягучага года. У астатніх рэгіёнах рэспублікі колькасць жыхароў за студзень-ліпень зменшылася. У выніку на 1 жніўня гэтага года ў Гомельскай вобласці налічвалася 1 млн. 428,4 тыс. чалавек, у Мінскай - 1 млн. 402,5 тыс., у Брэсцкай - 1 млн. 390,8 тыс., у Віцебскай - 1 млн. . 210 тыс., у Магілёўскай - 1 млн. 77,5 тыс., у Гродзенскай - 1 млн. 59,7 тыс. чалавек.

Паводле аператыўных дадзеных, у Беларусі ў студзені-ліпені гэтага года нарадзіліся 64 тыс. 355 дзяцей - на 3 тыс. 916 дзяцей больш у параўнанні з студзенем-ліпенем 2011 года. У Беларусі за сем месяцаў 2012 памерлі 74 тыс. 529 чалавек - на 5 тыс. 675 менш у параўнанні з аналагічным перыядам 2011 года.

У Беларусі захоўваецца станоўчы міграцыйны прырост - гэты паказчык склаў за студзень-ліпень бягучага года 2 тыс. 173 чалавекі (у студзені-ліпені ў Беларусь прыбылі 7 тыс. 524 чалавекі, выбылі 5 тыс. 351).

*Падрыхтаваў Алесь СУВОРАЎ.*

## Статут выстаўлены на паказ



Рарытэтны Статут Вялікага Княства Літоўскага выстаўлены на паказ у музеі гісторыі Магілёва.

Для Статута ў рэдакцыі 1588 было выраблена спецыяльнае сховішча, дзе падтрымліваецца пастаянная тэмпература – 16 градусаў.

Нагадаем, што Статут быў выкуплены ў чэрвені бягучага года за 45 тысяч долараў. 30 тысяч долараў было залічана на рахунак музея гісторыі Магілёва расійскай кампаніяй "Alpari", астатнія грошы – гэта ахвяраванні прыватных асоб.





Трэба адзначыць, што выстаўлены ў Магілёве Статут ВКЛ адзіны ў Беларусі. Выдадзены ён быў, паводле ацэнак экспертаў, у друкарні братоў Мамонічаў у Вільні ў 1594-95 гадах або ў 1600 годзе.

*Юлія БРУК.*

## Туркі прыйшлі ў Магілёўскі раён



25 жніўня адбылося ўрачыстае адкрыццё першага ў Беларусі завода па вытворчасці сродкаў асабістай гігіены, які размешчаны на тэрыторыі Палыкавіцкага сельсавета нашага раёна.

Ініцыятарам гэтага праекта выступіла замежнае прадпрыемства «БелЭмса», інвестарам якога з'яўляецца Турцыя. Завод створаны ў рамках рэспубліканскай праграмы па выпуску санітарна-гігіенічных і іншых вырабаў аднаразовага прымянення. Сучасная вытворчасць падгузнікаў для дзяцей і дарослых дасць магчымасць задаволіць патрэбнасць у гэтых вырабах медустаноў і насельніцтва, а таксама выйсці на міжнародны рынак. Адпаведна, на рынку нашай краіны скароціцца колькасць аналагічнай прадукцыі замежных вытворцаў. Па словах дырэктара прадпрыемства Учару Садуля, вырабы будуць адпавядаць лепшым сусветным стандартам, дзякуючы выкарыстанню сучасных тэхналогій і высакаякаснай еўрапейскай сыравіны.

На заводзе ўстаноўлена італьянская аўтаматызаваная лінія па выпуску падгузнікаў чатырох размерных мадэляў магутнасцю 120.000.000 падгузнікаў у год. Нягледзячы на тое, што лініі аўтаматызаваныя, на заводзе адкрыта больш за 40 новых працоўных месцаў. У далейшым плануецца павелічэнне магутнасцяў і, адпаведна, пашырэнне асартыменту прадукцыі, у тым ліку і на экспарт.

*Міхась БАРАЗНА.*

## Нацбанк адмаўляецца ад банкнот



З 1 верасня 2012 года спыняецца выпуск у абарачэнне банкнот Нацыянальнага банка наміналам 10 і 20 рублёў узору 2000 года. Пазбавіцца ад дробных купюр вырашана для скарачэння дзяржаўных выдаткаў на іх выраб. Гэтыя банкноты застаюцца ў абароце да 28 лютага 2013 года і абавязковыя да прыёму па намінальным кошце пры ўсіх відах плацяжоў без усялякіх абмежаванняў.

З 1 красавіка 2014 года гэтыя банкноты будуць выключаныя з абароту і будуць лічыцца несапраўднымі.

### Эканаміст Леанід ЗАІКА: *"Мы – чэмпіёны па дэвальвацыі"*



Эканаміст лічыць, што Нацбанк запазніўся з адабраннем з звароту дробных купюр і пракаментаваў спыненне выпуску дзесяцірублёвых і двадцатирублевых банкнот.

– Гэта прыкмета будучай дэнамінацыі?

– Прыкмета дэнамінацыі быў бачны яшчэ ў 1994 годзе. Таму што ўся манэтарная палітыка Беларусі была правальнай. Мы – чэмпіёны па дэвальвацыі. І зараз самае лепшае, што можна зрабіць – гэта закрэсліць чатыры нулі. Тады мы вернемся да блакітных цэнаў Савецкага Саюза. Праўда, гэта будзе шокам для грамадзян. Пасля трохразовай дэвальвацыі ў мінулым годзе, дэнамінацыі варта было чакаць. Яна была і будзе праходзіць. Замест таго, каб прыбіраць з абарачэння купюры наміналам 10 і 20 рублёў, лепш адразу закрэсліць чатыры нулі, зрабіўшы дэнамінацыю 1 да 10.000. Тады зарплата ў людзей будзе 400-500 рублёў, пенсія – 170 рублёў, а новы стол будзе прадавацца за 83 рублі. А канфіскацыя дробных купюр з звароту – гэта запозненая рэакцыя. Наш Нацыянальны банк мне нагадвае прыгажуню, якая заседзелася ў дзеўках і яе ніхто не бярэ замуж.

Ворагі і нядобразычліўцы ёсць у кожнага з нас. Ёсць яны і ў сінявокай Беларусі, – вунь як натапырыліся ўздоўж нашых межаў! І нешта ўсё клявешчуць, і розную лухту пра нас выдумляюць. Вось нядаўна, напрыклад, прыдумалі натуральнае гадства пра беларускія банкі, якія, як мы ўсе ведаем, вельмі моцныя і надзейныя:

**Все банки Беларуси планируют объединить в один государственный банк. Сейчас из двух выбирается один вариант названия : *"Национальный Единый банк"* (сокр. *"НаЕБанк"*) или *"Объединённый банк"* (сокр. *"ОбъеБанк"*).**

*Падрыхтаваў Міхась БАРАЗНА.*

## Для падлеткаў - "каменданцкі час"

З 5 верасня для падлеткаў пачне дзейнічаць "каменданцкая гадзіна". Знаходжанне падлеткаў на вуліцы ў начны і вячэрні час будзе абмежавана. Адпаведная пастанова ўступае ў сілу 5 верасня. У адпаведнасці з пастановай, падлеткі, якія будуць знаходзіцца на вуліцы без суправаджэння дарослых з 23.00 да 6.00, будуць перадавацца бацькам або апекунам, альбо ў сацыяльна-педагагічныя цэнтры. Бацькоў, чые дзеці будуць затрыманыя, чакае штраф да дзвюх базавых велічынь, а пры паўторным парушэнні – да пяці базавых велічынь

*Алесь СУВОРАЎ.*

## Будзем плаціць больш

У праекце пастановы, які цяпер разглядаюць ва ўрадзе, разглядаецца новы варыянт аплаты за выкарыстаную электраэнергію. Будуць улічвацца зімовы і міжацяпляльны перыяды, наяўнасць у доме газавай або электрычнай пліты. Па льготнай цане чатыры чалавекі павінны выкарыстоўваць каля 180 кВт летам і 195 кВт узімку. Гэта датычыцца кватэр з электраплітой. Для іншых – некалькі менш. Але энергетыкі адзначаюць, што і гэта не ў поўнай меры пакрывае ўсе выдаткі – вытворчасць аднаго кВт каштуе 9,75 цэнта, а насельніцтва аплачвае толькі 3,5 цэнта.

"СПРАВА"
Инфармацыйна-грамадскі бюлетэнь Магілёўскага раёна Магілёўскай вобласці, Рэспубліка Беларусь.
Выданне здзяйсняецца ў адпаведнасці з Законам Рэспублікі Беларусь "Аб сродках масавай інфармацыі".

Заснавальнік і адказны за выпуск - Мікалай Адамавіч ЯЦКОЎ
Адрас: 213107 Магілёўскі раён, в.Брылі, вул. Юбілейная 6 - 7
тэл. маб. +375293732886
e-mail: bryli@mail.ru

Матэрыялы друкуюцца на мове аўтараў.
Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў.
Звярстана і надрукавана на ўласным абсталяванні.
Падрыхтавана да друку *31.08.2012. 21.00.*
Наклад 299 асобнікаў. Распаўсюджваецца бясплатна.

«СПРАВА» заўсёды на www.kamunikat.org/